ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

6•2016
чэрвень

А мы — суседскія!..

Малюнак Міколы ПІРГЕЛЯ.

# Часопісу сатыры і гумару «Вожык» — 75 гадоў!

## 1941 Вожык 2016



Пролетарии всех стран, соединяйтесь!

РАЗДАВИМ ФАШИСТСКУЮ ГАДИНУ

№ 1 АГИТПЛАКАТ. ИЗДАНИЕ ГАЗЕТЫ „ЗВЕЗДА" ИЮЛЬ 1941 г.

СМЕРТЬ ФАШИЗМУ!

Начал враг-фашист разбой.
Пусть суров и труден бой,
К бою нам не привыкать —
Мы отпор сумеем дать,
И врага с земли сметут
Наши танки и штыки;
По костям его пройдут
Красной армии полки.

Появится враг — низко, высоко ли,
Всюду сразит его гордые соколы.
Врага уничтожат, куда бы ни лез,
Гордые соколы наших небес.

Налетел фашистский сброд
На советский огород.
Как свинья бы ни скулила,
Разобьем свиное рыло!

Сегодня мы все на защиту
Любимой родины встали.
На фронте мужья и братья, —
Победа для нас ясна.
А чтобы станки на заводах
Нигде у нас не молчали,
Сестра заменяет брата,
Мужа-бойца — жена.



— Гадзіна раздаўлена, прымай, «Вожык», зброю!






























**Міхась МІРАНОВІЧ**

## Страхоўка

Высновы робім мы
З падзей:
Багацце ўсё ж
Псуе людзей.
Я ад таго
Застрахаваны –
Памру, як бачна,
Непсаваны...





## Інтарэс

Нахабная муха
Ў пакой заляцела
І, каб адпачыць,
Мне на лысіну села.
Хто б іншы прагнаў,
Але я не чапаю –
Хаця б для каго
Інтарэс уяўляю!..




## Вернасць

Пра ворагаў
Скажу адно:
Яны мне
Вернасць зберагаюць.
Сябры пакінулі
Даўно,
А ворагі
Не пакідаюць.

## Рэаліст

Мінае ўсё,
Як з яблынь дым...
Я вопытны,
Не веру ў цуды:
Ужо не буду маладым,
А хутка –
І старым не буду!



## Такім і застаўся

Мне згадваюцца
Школьныя гады,
Калі жыцця не ведаў,
Шмат пытаўся...
З дзяўчатамі
Я дурнем быў тады,
А зрэшты, з імі дурнем
І застаўся.






## Выпрабаванне славай

Долю ўласную
Лічу цікавай,
Спасцігаю сэнс жыцця
І сутнасць.
Я прайшоў
Выпрабаванне славай –
Лёгка вытрымаў
Яе адсутнасць.




## Кругленькая сума

Не баюся болей
Крызісу і буму,
І чакаць дэфолту
Мне няма адкуль.
На рахунку маю
Кругленькую суму:
У мяне там зараз –
Абсалютны нуль.

*г. Віцебск.*




Малюнак Алега ПАПОВА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Андрэя СІДАРЭЙКІ.







Малюнак Пятра КОЗІЧА.

## Гэта вам не жартачкі!

*Міні-фельетон*

А вы памятаеце, як жартавалі ў дзяцінстве? Магчыма, падкладвалі сябрам ці нават настаўніцы кнопку на стул, прыклейвалі прыяцелю на спіну лісток з надпісам «дурань», ладзілі разнастайныя розыгрышы. Вось толькі адна справа, калі жарт прыносіць вяселосць і прыемныя эмоцыі, і зусім іншая, калі з-за яго пакутуюць людзі. Тут неабходна ўзгадаць, што кожны ўчынак, з якой бы мэтай ён ні быў зроблены, вядзе да нейкіх наступстваў. І нават самая, на першы погляд, бяскрыўдная забаўка можа сур'ёзна сапсаваць жыццё.

У гэтым на ўласным прыкладзе ўпэўніўся 15-гадовы школьнік з Мазыра. Калі яны сядзелі групкай равеснікаў, ён вырашыў паказаць, што ўмее цікава і смешна жартаваць. Хлопец узяў у адной дзяўчыны тэлефон, набраў нумар МНС і заявіў у трубку: «Аэрапорт Мінск замініраваны! Тэрмінова патрабую мільён долараў і верталёт»! Пасля гэтага, мабыць, вырашыў, што яскрава прадэманстраваў сваё пачуццё гумару, і скончыў званок.

Але мазырскія аператыўнікі жарт не ацанілі. Яны хутка адрэагавалі на пагрозу, у лічаныя хвіліны знайшлі нумар, па якім яна была здзейснена. І неўзабаве затрымалі школьніка, які нічым не змог апраўдаць свой учынак. Узбуджана крымінальная справа. За такую забаўку падлетак можа атрымаць штраф ці апынуцца за кратамі на тэрмін да шасці месяцаў. І гэта ўжо не жартачкі, а рэальная адказнасць за здзейсненае!

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**



Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.

## Гандляр «жывым таварам»

Здаецца, і рабаўладальніцтва, і прыгоннае права засталіся ў мінулым. І зараз у нас дэмакратычнае і гуманнае грамадства, накіраванае на тое, каб кожны чалавек адчуваў сябе свабоднай асобай.

Дзіўна, але ёсць яшчэ людзі, якія не прымаюць гэты факт і імкнуцца павярнуць час назад. Напрыклад, 26-гадовы магіляўчанін (дарэчы, раней неаднаразова судзімы) арганізаваў канал вывазу дзяўчат у Расійскую Федэрацыю для занятку прастытуцыяй. Ён абяцаў ім багатае і шыкоўнае жыццё, стабільную працу ў масажным салоне. А на самай справе аказвалася ўсё не так — дзяўчаты станавіліся сапраўднымі рабынямі без дакументаў, без магчымасці звязацца з роднымі і блізкімі, абавязаны былі прадаваць сваё цела.

Вось толькі нядоўга магіляўчаніну давялося здзяйсняць сваю чорную справу! Супрацоўнікі ўпраўлення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі УУС сумесна з аператыўнікамі Чавускага РАУС правялі спецыяльную аперацыю і затрымалі злачынцу якраз у той момант, калі ён вёз чарговы «жывы тавар».

Мужчыну пагражае да 10 гадоў зняволення. Хай на асабістай скуры адчуе, як балюча страціць самае дарагое — свабоду.

## Магілёўская вобласць




### Наркатычныя сцежкі

Ёсць вядомае выказванне: колькі вяровачцы ні віцца, а канец калі-небудзь ды будзе. Так і са злодзеямі: колькі б ні шанцавала, але аднойчы іх усё роўна схопяць міліцыянеры.

У Магілёўскім раёне каля вёскі Сідаровічы праваахоўнымі служачымі былі затрыманы ўдзельнікі міждзяржаўнай злачыннай групы, якая займалася пастаўкамі наркотыкаў транзітам праз Беларусь ва Украіну і краіны Еўрасаюза. Раней неаднаразова судзімы жыхар Украіны і беспрацоўны магіляўчанін на «Жыгулях» перавозілі схаваныя дзевяць кілаграмаў метадону агульным коштам каля трох мільёнаў долараў ЗША.

Крывая сцежка, па якой пайшлі правапарушальнікі, завяла іх у турму. Мы ж спадзяёмся, што і іншыя падобныя наркатычныя дарогі зараз усё часцей будуць трапляць у поле зроку міліцыі.

## Апошняе слова

Ці заўважалі вы, што ёсць людзі, якія робяць усё магчымае, каб апошняе слова заўсёды заставалася за імі? Да такіх можна аднесці і аднаго жыхара Магілёва.

Не так даўно яго каханая вырашыла парваць з ім адносіны. Хлопец жа не згадзіўся і захацеў адпомсціць крыўдзіцельцы. Ён сцягнуў ключы ад яе машыны і паехаў катацца. Праз некаторы час трапіў у аварыю, але ўцёк ад міліцыі і, быццам нічога не здарылася, вярнуў аўтамабіль на месца. Так атрымалася, што разам з ключамі свaёй каханай хлапец прыхапіў і ключы ад машыны яе маці. На гэтым аўтамабілі ён таксама вырашыў паездзіць па горадзе. Толькі тут яго амаль адразу затрымалі міліцыянеры.

Апошняе слова, безумоўна, засталося за жыхаром абласнога цэнтра. Вось толькі такая блазнота можа каштаваць яму да пяці гадоў зняволення. Узнікае адзінае пытанне: а навошта гэта было патрэбна?




*Усе шлюбы ўдалыя. Цяжкасці з'яўляюцца толькі тады, калі пачынаецца сумеснае жыццё.*

*Францауза Саган, французская пісьменніца*



Малюнак Алега ГУЦОЛА.




# Дваццаць тры і восем

*Апавяданне*

Суботняй раніцай Віктар прачнуўся ў не зусім добрым настроі. У гэты дзень яму хацелася паспаць даўжэй, але сон ніяк не ішоў, вочы самі сабой расплюшчваліся. Мужчына пасядзеў крыху на ложку, потым апрануўся і выйшаў з пакоя. На кухні завіхалася цешча. Мабыць, ёй таксама не спалася суботнім ранкам.

– Ужо прачнуўся, Віця? – спытала яна. – Сядай за стол, зараз бліноў напяку. Цеста ўжо разведзена, праз пару хвілін сняданак будзе гатовы.

Смачныя бліны са смятанкай паднялі Віктару настрой. Шчаслівы і бадзёры, ён пайшоў у гараж, каб з асалодаю папоркацца пад капотам свайго аўтамабіля. Як заўсёды бывае са старымі машынамі, знайшлася дэталь, якую трэба было замяніць, таму давялося прыхапіць грошы і ехаць на рынак. Калі неабходная запчастка была куплена, Віктар накіраваўся да выхаду, але раптам у адным з кіёскаў пабачыў электронны тэрмометр для вымярэння тэмпературы паветра на вуліцы.

«А чаму б не падарыць яго цешчы? – падумаў ён. – Даўно хацеў такую штуку набыць. Ды і карыстацца ёй уся сям'я зможа».

Віктар ужо ўяўляў, як цешча будзе дзякаваць за падарунак, а потым хваліцца сяброўкам, які цудоўны ў яе зяць.

Цешча сапраўды ўзрадавалася і за такую ўвагу паабяцала зяцю спячы яго любімы пірог. Задаволены сабою, Віктар узяўся вешаць тэрмометр. Справа гэта няхітрая, праз некалькі хвілін усё было зроблена.

– Ой, як добра! – усклікнула цешча.

А потым асцярожна сказала:

– Паслухай, Віця, няправільна наш тэрмометр тэмпературу вызначае. На экранчыку высвечваецца 23,8, але на вуліцы і дваццаці градусаў не будзе. Халаднаваты сёння дзень...

– Пачакайце, зараз ён сам настроіцца, я ж яго толькі павесіў, – пачаў запэўніваць цешчу Віктар.

Але лічбы не змяняліся.

– А, зразумеў! Гэта ж ён тэмпературу ў пакоі паказвае! Забыўся датчык праз фортку перакінуць...

Сітуацыя была выпраўлена. Але паказчык заставаўся тым жа.

– Усё правільна я зрабіў! – пачаў хвалявацца зяць. – Проста на вуліцы тэмпература паветра і ёсць 23,8.

– Быць таго не можа! – упарцілася цешча.

Віктар пачаў злавацца.

– А вы пагрэйце рукой датчык, тады паказчык зменіцца! – параіў ён цешчы.

І хуценька падставіў пад акно табурэтку, жэстам запрашаючы цешчу на яе ўзлезці. Забыўшыся на радыкуліт, тая з лёгкасцю ўскочыла на табурэтку, ледзь не па пояс высунулася з акна і стала далонню падаграваць датчык. Віктар назіраў за лічбамі. Экранчык упарта высвечваў 23,8. Зяць ужо зразумеў, што з тэрмометрам і сапраўды нешта не так, але не спяшаўся даставаць дарагую цешчу.

– Ну, што там? – перарваў яго развагі скрыпучы голас.

– Злазьце! – коратка адказаў зяць.

Цешча борздзенька саскочыла з табурэткі.

– Абдурылі цябе, Віця, прадалі сапсаваны тэрмометр! – зрабіла яна выснову.

Шчокі зяця пабіла чырвонымі плямамі. Вось дык падзяка за сюрпрыз!

– Я ж ім сказаў, што для вас, мама, падарунак куплю! – узарваўся ён. – Таму яны мне паламаны і далі!

Цешча прыжмурыла вочы, але нічога не адказала. Віктар зняў тэрмометр з акна, выцягнуў знадворку датчык і паклаў у лядоўню. Праз некалькі доўгіх хвілін дастаў, спадзеючыся пабачыць іншы паказчык, але нічога не змянілася.

– Ты што, іншых лічбаў не ведаеш? – прыкрыкнуў на прыбор Віктар.

– Няхай проста так вісіць, для прыгажосці, – прапанавала цешча.

Зяць не пагадзіўся.

– Не, зараз паеду на рынак і памяняю, а вы пакуль што цеста на абяцаны пірог рашчыніце!

– Пірог я спяку, канешне, – адказала цешча. – Але ты лепей не мяняй тэрмометр. Няхай забяруць сваё кітайскае дабро, а грошы вернуць!

Віктар схапіў тэрмометр і паехаў аддаваць няякасны тавар. Мужчына вельмі злаваўся, што давялося зноўку цягнуцца на рынак. Бензіну пайшло нашмат болей, чым той тэрмометр каштуе, але справа прынцыповая. Якніяк, але падарунак цешчы...

Да кіёска, у якім набыў цудатэрмометр, Віктар падышоў шырокім крокам. Гучна апусціў скрынку з прыборам на столік перад прадаўшчыцай і раздражнёным тонам сказаў:

– Што вы мне прадалі? Вы свой тавар хоць правяраеце? Ён жа не працуе!

Пакупнікі, якія стаялі ў той момант побач, прыслухаліся, падышлі бліжэй. Віктар, заўважыўшы гэта, стаў яшчэ больш сварыцца:

– Прывёз гэты тэрмометр дадому, павесіў, а ён сапсаваным

аказаўся. На што вы разлічвалі, га? Каб я назад вярнуўся бракаваны тавар мяняць?

Прадаўшчыца ўсхвалявана пачала адкрываць скрыню і даставаць тэрмометр.

– Ды я за бензін на дарогу сюды і назад у пяць разоў больш заплачу, але не дазволю сябе абдурыць!..

У працяглым маналогу Віктар выплеснуў усеназапашаныя адмоўныя эмоцыі.

– Прабачце, шаноўны, а што з тэрмометрам не так? – запыталася прадаўшчыца.

– Хіба самі не бачыце? – здзекліва адказаў пытаннем на пытанне Віктар. – Ваш цуда-тэрмометр і ў хаце, і на вуліцы, і ў лядоўні адну тэмпературу паказвае – 23,8!

Усе, хто быў побач, паглядзелі на экранчык.

– Ніякіх праблем! – усміхнулася жанчына. – Зараз запрацуе!

Пры гэтых словах яна адклеіла ад экранчыка празрыстую плёначку, на якой былі напісаны тыя самыя лічбы – 23,8. Потым націснула кнопку, прыбор уключыўся і на табло з'явіўся іншы паказчык: 19,6.

Прадаўшчыца ледзь стрымлівала смех. Астатнія пакупнікі рагаталі ўголас. Збянтэжаны Віктар разгублена маўчаў. Потым схапіў свой падарунак і хуценька пабег.

Цешчы ён не прызнаўся ў тым, што адбылося на рынку. Для яе была падрыхтавана іншая версія:

– Нікуды гэтыя гандляры-махляры ад мяне не дзеліся! – важна расказваў Віктар, спрабуючы смачны цешчын пірог. – Прабачэння папрасілі! А тэрмометр ваш замянілі на іншы, больш дарагі, а даплаціць не папрасілі.

**Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ,**
*г. Мінск.*





Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Аляксандра БАГДАНОВІЧА.

## Думкі ўголас

Часцей за ўсё варон лічыць той, хто мае прабелы па матэматыцы.

Што пасееш, тое і пажнеш. Давайце ж сеяць разумнае, добрае, вечнае!

Не да дабра, калі нават вечны рухавік пачынае даваць часовыя збоі.

Часам за правіннасці казла адпушчэння лупяць сідараву казу.

Той, хто гне ўласную лінію ў жыцці, вымушаны згінацца дугой, каб стаяць на сваім.

**Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*

**Тацццяна ДЗЕМІДОВІЧ**

# Не прапа-падзем!



*Жыццёвае*

У холе Дома дзіцячай творчасці дзве маладыя маці чакаюць сваіх дзетак з заняткаў і бавяць час з навамоднымі смартфонамі.

– А мы Лізцы новую сукенку і спаднічку купілі, – выхваляецца першая і паказвае сяброўцы фотаздымкі на тэлефоне.

– Прыгажосць якая! І дзе вы іх набылі? – пытаецца другая.

– Ой, ужо і не памятаю. Там трэба направа праехаць, потым прама, пасля налева... Зараз удакладню, дзе гэта.

Жанчына шэпча ў мабільнік назву крамы і імгненна знаходзіць патрэбную інфармацыю.

– О, я там яшчэ не была! – заўважае суразмоўніца. – Але затое мы з Данікам на курсы запісаліся, кітайскую мову вывучаць будзем. Зараз пакажу!

Яна таксама схіляецца да смартфона. Некалькі секунд – і на экране з'яўляюцца неабходныя звесткі.

– Ці варта так загружаць дзіця? – сумняваецца сяброўка. – Праграма першага класа вельмі складаная. Нам аднойчы задалі вызначыць колькасць літар і гукаў у словах «конь», «гумар» і «птушка». Мы ўсёй сям'ёй думалі-думалі і вырашылі, што яна аднолькавая... Аднак выявілася, што ў слове «конь» на адзін гук менш! А ў інтэрнэце правільных адказаў на заданні за першы клас наогул няма! Уяўляеш, які жах?

– Не можа быць! – не верыць тая і хутка шэпча ў смартфон: «Слова «конь», колькасць гукаў і літар».

Правільны адказ знайшоўся па першай спасылцы.

– Вось бачыш! У інтэрнэце ёсць усё! – узрадавана зазначае жанчына. – Не прападзем!

*г. Брэст.*




## Дрэнная выпускніца

– Ганна, як там твая ўнучка? Усё яшчэ вучыцца ў сваім інстытуце?

– Ды не, ужо скончыла. Атрымала дыплом і працуе за мяжой.

– Відаць, кепска вучылася, раз тут ёй не знайшлося годнага месца.

## Не мой профіль

– Мілы, – кажа жонка мужу-пісьменніку, – напішы апавяданне, а лепш аповесць пра нас з табой. Як мы добра жывём, як я цябе кахаю і дагляадаю, якая я цудоўная гаспадыня...

– Не атрымаецца, любая. Ты ж ведаеш, што фантастыка – не мой профіль.

**Даслаў Анатоль ПАЛЫНСКІ,**
*г. Беразіно.*

## Каб было чым плаціць

Участковы інспектар складае пратакол на самагоншчыцу.

– Цяпер, Кацярына, – кажа ён, – давядзецца заплаціць вялікі штраф.

– А ты, шаноўны, – моліцца тая, – не забірай самагонку. Прадам яе ды заплачу гэты штраф.




## Навічок

Злавілі кішэннага злодзея. Ён слязліва просіць:

– Адпусціце, добрыя людзі, я навічок без вопыту работы!..




**Даслаў Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Міхася СЛІВЫ.




Малюнак Тамары РАДАВАНАВІЧ і Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

# Няўдалы лёс

*Небыліца*

З возам трантаў, без кабылкі
Я спяшаўся да Марылькі.
З любай думалі ў нядзелю
Мы згуляць сваё вяселле.
Ўпрогся сам замест каня –
Прамудохаўся паўдня.
Прытаміўшыся ў дарозе,
Адпачыць прылёг на возе.
Ветрык жа, пакуль я спаў,
Мне аглоблю паламаў.
Калі ўвечары прачнуўся –
Воз у лужы апынуўся.
Ледзьве адрамантаваў,
Ушчэнт рукі пазбіваў.
На вяселле я спазніўся,
З мілай сябар ажаніўся...
На карачках поўз дахаты,
Пакамечаны, патлаты,
Свайго гора не хаваў,
На няўдалы лёс злаваў:
– От лапух, от размазня:
Ані жонкі, ні каня.

**Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*

# Афарызм

Старасць – гэта час, калі свечкі на імянінным піразе абыходзяцца даражэй за сам пірог.

*Невядомы аўтар*




## Утаймаванне рэдкага жанру



*Калі і ёсць месца, дзе канцэнтрацыя беларускага гумару перавышае ўсе магчымыя нормы, то гэта, безумоўна, вожыкаўская скарбонка. Гумарэскі, іранескі, байкі, эпіграмы, пароды, мініяцюры, афарызмы, анекдоты – чаго тут толькі не знойдзеш! Але самы рэдкі госць, які, пэўна, толькі з «Вожыкам» і працягвае сяброўства, – гэта фельетон. Вядома, што не кожны мае смеласць узяцца за ўтаймаванне такога складанага жанру.*

*Нашая сённяшняя дэбютантка Алена Кеда якраз з тых аўтараў, хто не збаяўся перашкод і сур'ёзна вырашыў авалодаць складаным рамяством фельетаністаў. Дзяўчына нарадзілася ў 1991 годзе ў горадзе Мінску, скончыла юрыдычны факультэт БДУ і сёння працуе ў Нацыянальным цэнтры інтэлектуальнай уласнасці, дзе спецыялізуецца на калектыўным кіраванні. Адукацыя і далейшая праца падштурхнулі Алену да напісання фельетонаў на юрыдычныя тэмы: у 2014 годзе яна дэбютавала з гэтым жанрам у часопісе «Чалавек і закон». Акрамя таго, у газеце «Знамя юности» друкаваліся вершы аўтаркі, а на інтэрнэт-партале LADY.TUT.BY – артыкулы. У 2015 годзе, калі часопіс «Чалавек і закон» прыпыніў існаванне, Алена не захацела пакідаць свае фельетоны бяздомнымі і распачала пошукі адпаведнага выдання. Так яна і пазнаёмілася з часопісам «Вожык».*

*З вялікімі спадзяваннямі мы далучаем Алену Кеду да ліку нашых аўтараў, жадаем ёй творчага поспеху і плённай працы ў жанры фельетона!*

**Алена КЕДА**

# Філалогія і дэмагогія



*Фельетон*

У невялікім пакойчыку суда заслухоўвалася справа аб адміністрацыйным правапарушэнні па артыкуле «Паклёп». Спачатку суддзя зачытаў уступнае слова, асаблівасці справы. Затым прапанаваў выступіць пацярпелай Куліковай.

– Добры дзень, мяне завуць Зінаіда Пятроўна. Я філолаг, – з гонарам у голасе пачала яна даваць паказанні. – Мы з сястрой Анжэлай жывём па-суседстве ў прыватным сектары недалёка ад Мінска. Вечарам дваццатага мая я ніяк не магла выбраць кнігу. Душа мітусілася паміж эпісталярнай спадчынай Дастаеўскага і творчасцю паэтаў Мадагаскара. Тут прыбягае мой сын Жэня, усхваляваны і напалоханы. Аказваецца, Анжэла абразіла хлопчыка, і зараз ён стаіць на парозе анарэксіі, цураецца аднагодкаў. Мне нязручна казаць, але яна параўнала маю крывінку з чартапалохам. Як вядома, у «Слоўніку сімвалаў» Джэка Трэссідара гэтая расліна ўзгадваецца як эмблема пакутніцтва. Атрымліваецца, што сын – пакаранне для мяне?

Суддзя здзіўлена лыпаў вачыма, і нічога не разумеў. Ён, канешне, заўсёды падазраваў, што ёсць асаблівы від логікі – суб'ектыўная, якая існуе толькі ва ўяўленні яе ўладальніка. Але зараз на прыкладзе Куліковай упэўніўся ў гэтай думцы. А Зінаіда Пятроўна працягвала сваю палеміку:

– Акрамя таго, сястра параўнала майго сына з малпай. Гэта сімвал заганы і злачынных намераў! А майму Жэньку толькі дванаццаць гадоў! – Кулікова ліхаманкава перабірала раздрукаваныя старонкі. – Яшчэ Анжэла сказала, што мой сын – свіння! Яна ж асацыіруецца з тыраніяй! Вы толькі падумайце, якая абраза!

Зінаіда Пятроўна з горда ўзнятай галавой скончыла сваё выступленне і ўселася на месца. Далей слова прадаставілі Анжэле. Тая паднялася і, сарамліва гледзячы ў падлогу, пачала апраўдвацца:

– Паважаны суддзя, я сказала Жэні, што ён учэплівы, як лопух, і адмовілася даваць грошы, якія падлетак забягае прасіць у мяне па

некалькі разоў на тыдзень. Мне, канечне, не шкада, але ж пляменнік у нейкі момант пачаў успрымаць гэта як належнае, нават не дзякаваў. Вось я і сказала, каб ён перастаў паводзіць сябе па-свінску. Жэня ж у адказ пачаў крыўляцца. У мяне і вырвалася, што ён паводзіць сябе, як малпа.

Кулікова закруцілася на сваім месцы. З аднаго боку, яна абуралася, што сын перастаў выглядаць ахвярай цёткі, а з другога — радавалася, бо яе словы пацвярджаліся. Калі Анжэла села на месца, то Зінаіда Пятроўна імгненна падхапілася і выкрыкнула:

— Звярніце ўвагу, таварыш суддзя, мая сястра яшчэ параўнала Жэню з клоунам. А яны ўвасабляюць чалавечыя няўдачы, паказваюць, як сур'ёзнасць пераўтвараецца ў фарс. Тым самым мая сястра намякнула, што я пацярпела няўдачу ў выхаванні сына! Вы ўяўляеце адчуванні Жэні, калі ён чуў такія несправядлівыя абразы?

— Я не гэта мела на ўвазе, Зіна! Чаго ты да слоў чапляешся? Мы ж дзве крывінкі, а тут на пустым месцы... — ледзь не плачучы, казала Анжэла.

У пакойчыку загаманілі прысутныя, суддзі спатрэбілася некалькі хвілін, каб усталяваць цішыню.

Далей былі выступленні сведак, якія блыталіся ў паказаннях. Шматлікія выпады Куліковай, калі ход працэсу не адпавядаў яе ўяўленням пра справядлівасць. Стомлены позірк суддзі, які яшчэ раз упэўніўся, што няма межаў чалавечым глупствам...

Наяўнасць падобных судовых працэсаў палохае: пасяджэнне да дзевяці гадзін вечара, выдаткаваныя сёстрамі на адвакатаў грошы, не кажучы пра страчаныя нервы і час — свае і ўдзельнікаў суда. Ці варта усё гэта хвіліны радасці ад помсты за сумніўную крыўду? А можа, лепш часцей глядзець на свае паводзіны і ўчынкі збоку? Гэта кожны мусіць вырашаць сам.

*г. Мінск.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Тамары РАДАВАНАВІЧ і Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.







Малюнак Рабэрта МАНГОЗІ (Італія).



Малюнак Ёнг СІК ОХА (Кітай).



Малюнак Івана АНЧУКОВА (Расія).





Малюнак Луіса ПОЛА (Аўстралія).

# У нас у гасцях

Стършел — седмичник за хумор и сатира

**(Балгарыя)**

Самы просты спосаб растлумачыць дзецям, што такое падаткі, гэта з'есці 20% іхняга марожанага!



***

– Тата, а чаму на карце мяжа пазначаецца як кропка-працяжнік, кропка-працяжнік?

– Гэта геаграфічны сімвал: сабака-памежнік, сабака-памежнік...

***

У судзе.

– Абвінавачаны, чым вы займаліся шостага снежня ў дзесяць гадзін раніцы?

– Я быў тут перад вамі і тлумачыў, што я рабіў дзясятага чэрвеня ў сем гадзін вечара.

***

З інтэрв'ю:

– Як вы праводзіце свой вольны час?

– На працы ці ў цэлым?

***

– Што такое парадокс?

– Гэта калі шчасце стукаецца ў вашыя дзверы, а вы скардзіцеся на шум.

***

Каб сказаць гістарычную фразу, вы павінны быць гістарычнай фігурай.

***

Абед яны прыгатавалі разам: яна выбірала бульбу, а ён – кіпячоную ваду.

***

Таямніца шырокай амерыканскай усмешкі крыецца ў гамбургерах: каб іх укусіць, трэба добра расцягнуць свой рот.

**Пераклад з балгарскай Ганны СІНІЦЫ.**







Малюнкі Маргарыты ЯНЧАВАЙ.



Малюнак Святліна СТЭФАНАВА.




# КРОКОДИЛ

## Флагман саюзнай сатыры і гумару

*Прадстаўляць сённяшняга госця нашай пастаяннай рубрыкі асаблівай патрэбы няма: у кожнага чытача на слыху назва «Кракадзіл», хоць прайшло ўжо восем гадоў з таго часу, як часопіс перастаў выходзіць. Выданне з мільённымі тыражамі ведалі і любілі ва ўсіх саюзных рэспубліках, з задавальненнем выпісвалі і чыталі ў розных кутках былой вялікай дзяржавы. Моцныя сяброўскія і плённыя творчыя стасункі завязаліся ў часопіса са шматлікімі пабрацімамі, у тым ліку і з «Вожыкам»: на старонках-калючках пастаянна друкаваліся лепшыя матэрыялы з «Кракадзіла», а беларускія гумарысты і карыкатурысты нярэдка змяшчалі свае творы ў адным з самых папулярных саюзных выданняў.*

*А заснаваны быў «Кракадзіл» яшчэ ў 1922 годзе, спачатку як дадатак да «Рабочай газеты». Нумары часопіса выходзілі ў пяці варыянтах: асноўным, маскоўскім, урала-сібірскім, ленінградскім і ўкраінскім. Акрамя таго, выпускаліся адмысловыя ліскі («штурмоўкі») «Кракадзіл у нас», прысвечаныя асобным заводам і фабрыкам. Выдаваўся «сатырычны нататнік» «Кракадзіл – агітатару», выходзіў мультыплікацыйны кіначасопіс «Кінакракадзіл», папярэднік вядомага «Фитиля».*

*Сатыра выдання не абмяжоўвалася побытавымі тэмамі – выкрыццём бюракратаў, п'яніц, хабарнікаў, крытыкай некампетэнтных кіраўнікоў сярэдняга і ніжэйшага звяна, яна таксама адлюстроўвала галоўныя падзеі ўнутранай і знешняй палітыкі. Зрэшты, чытачам былі даспадобы і матэрыялы, што называецца, з жыцця, якія размяшчаліся ў пастаянных рубрыках «Вілы ў бок!» (фельетоны на розныя тэмы), «Кракадзіл дапамог» (артыкулы пра меры, прынятыя па выніках публікацый), «Таленты і прыхільнікі» (фельетоны і карыкатуры на тэму культуры) і шматлікіх іншых.*

*Цікава ўзгадаць, што ў розныя часы аўтарамі часопіса былі Уладзімір Маякоўскі, Самуіл Маршак, Міхаіл Казакоўскі, Ілля Ільф, Яўген Пятроў... Прыхільнікі выдання памятаюць і пастаянных персанажаў – уласна Кракадзіла, героя фельетонаў і карыкатур; яго дзяцей Татошу і Какошу, жонку Вялікую Кракадзілу; брата Нільскага Кракадзіла – карэннага афрыканца; Я. Хмяльнога – выдуманага карэспандэнта неіснуючай газеты «Сабутэльнік», хранічнага алкаголіка («змагара з цвярозасцю»). Пералічваць можна доўга, як і распавядаць пра часопіс, які стаў гумарыстычным сімвалам стагоддзя, цэлай эпохай у літаратурна-мастацкім жыцці краіны. Нам не хочацца верыць, што вясёлы сябар спыніў сваё існаванне, таму сёння, быццам нічога не здарылася, як і ў былыя часы, прапануем вашай увазе падборку нязменна якаснага гумару, хоць і з паметай «рэтра».*





Малюнак Сяргея ЦЮНІНА, 1987 г.




Малюнак Ігара СЫЧОВА, 1979 г.

**— Я тут прывёў аднаго грамадзяніна, ён дапаможа нам скласці справаздачу.**



Малюнак Яўгенія ШЧАГЛОВА, 1979 г.

Юрый БЕЛЕНЬКІ

## Знаходка

Заслужанага артыста Сідоркіна ўпершыню запрасілі спяваць на тэлебачанне.

Маладая асістэнтка з адсутным позіркам доўга вазіла артыста ўверх-уніз у ліфтах, вадзіла па пераходах і калідорах з мноствам дзвярэй. Нарэшце спынілася на лесвічнай пляцоўцы самага высокага паверха.

— Пачакайце тут!

— Галава закружылася, — паскардзіўся Сідоркін, паглядаючы на шкляныя сцены. — Вы хутка?

— Прывыкайце, — адказала асістэнтка, гледзячы ўдалечыню.

— Вы, калі ласка, не пакідайце мяне тут зусім. Баюся, што адсюль мне аднаму не выбрацца.

Асістэнтка кінула праз плячо: «Спецыфіка!» — і знікла, быццам растварылася.

Праз гадзіну яна з'явілася з панурым даўгарукім хлопцам і сівагрывым мужчынам з выглядам забітага цыркавога льва.

Сівагрывы, як аказалася, рэжысёр, сумна паглядзеў на Сідоркіна.

— Вельмі прыемна пазнаёміцца, — бязрадасна сказаў ён. — Але, на жаль, усе кабінеты занятыя. Давядзецца глядзець вас тут.

Сідоркіна падвялі да шкляной сцяны, скрозь якую прабіваліся сонечныя промні. Тэлевізіёншчыкі закруціліся вакол артыста, як дзеці вакол навагодняй ёлкі. Толькі што за рукі не трымаліся.

Нарэшце яны спыніліся. Рэжысёр ухапіўся абедзвюма рукамі за свой магутны недаголены падбародак і звярнуўся да даўгарукага, які, відаць, быў апэратарам.

— Вось што, — сумна сказаў рэжысёр. — Апранём яго ў белую кашулю з макамі, белы пінжак з паралонавымі плячамі... Плечы ў вас падкачалі... аднолькавыя... Як ты лічыш, Каця?

— Чагосьці не хапае, — млява працягнула асістэнтка. — Нейкай асіметрыі...

— Лысіна адсвечвае, — груба сказаў Гена-аператар. — Нос доўгі — яма будзе пад носам.

— Лысіну замажам, яму засвецім, — хутка знайшоўся рэжысёр.

— Зубы трэба глянуць, — дадаў Гена.

— Навошта? — спалохаўся Сідоркін, адчуўшы сябе канём на кірмашы.

— Павінны ж мы ведаць, можна вам рот адкрыць ці не?

— А як я буду спяваць, калі нельга?

— Спяваць вы ўвогуле не будзеце. Дамо фанаграму. А вас у выпадку чаго будзем здымаць па-за фокусам. Ці са спіны. Або ў падзенні...

— Адкуль? — зусім збянтэжыўся спявак. — Не, ведаеце, я лепей пайду.

Працяг на стар. 14.



Малюнак Алега ЦЕСЛЕРА, 1979 г.

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 13.*

— Куды? — на гэты раз спалохаўся рэжысёр. — Не хвалюйцеся, з зубамі што-небудзь прыдумаем. А ну, паскачыце...

— Як? — не зразумеў Сідоркін.

— Як людзі скачуць, — раззлавалася Каця. — Уверх-уніз. Ну?

Сідоркін нясмела паспрабаваў.

Рэжысёр пакінуў свой падбародак і запусціў пальцы ў грыву.

— Та-ак, не густа! — сказаў ён. — А калі яго на парашутную вышку?

— Стары прыём, — сказаў Гена і адвярнуўся.

— Зразумела! — раптам загарэлася Каця-асістэнтка. — Зразумела, чаго яму не хапае. Ногі кароткія для такой фігуры. Нетэлегенічна. Рэдактар не прапусціць.

— Можа, дыму напусцім? — рэжысёр зусім зніякавеў.

— Старое! — адрэзаў Гена.

Рэжысёр пачаў круціць уласныя вушы. Ён так старанна перабіраў пальцамі, быццам хацеў зрабіць два скруткі.

Сідоркіну стала яго шкада.

— Слухайце! А калі я буду проста стаяць?

— Як стаяць?

— Па стойцы «смірна». У строгім гарнітуры. І спяваць.

— Біце мяне! — пляснуў у далоні рэжысёр. — У гэтым нешта ёсць!

— Небанальна, — падтакнула Каця.

— Можна паспрабаваць, — згадзіўся апаратар.

Яны замітусіліся і пачалі актыўна абмяркоўваць, які фурор выкліча гэтая знаходка...



Малюнак Яўгенія МІЛУТКІ, 1979 г.

## У вобразе

Вядомага акцёра Ленінградскага ВДТ Я. Лебедзева аднойчы спыталі:

— Як гэта вы рашыліся на тое, каб сыграць ролю Бабы Ягі?!

— Ведаеце, я тады якраз вылятаў у трубу, — адказаў ён.

## Устаноўка

Неяк папулярнаму псіхатэрапеўту А. Кашпіроўскаму патэлефанаваў адзін жыхар сталіцы і з удзячнасцю паведаміў, што пасля чарговага тэлесеанса яму нарэшце ўстанавілі доўгачаканы тэлефон.

— Я даў устаноўку! — знайшоўся псіхатэрапеўт.

## Дзеля смеху

Папулярны эстрадны акцёр Я. Шыфрын вельмі хутка рыхтаваў свае новыя праграмы. Аднойчы карэспандэнт пацікавіўся ў яго пра прычыны такой спешкі.

— Паспяшыш — людзей насмяшыш! — адказаў той.

**— Гэта вы скардзіліся на халодныя батарэі?**



Малюнак Яўгенія ШУКАЕВА, 1979 г.

Аляксандр ІВАНОЎ

## Блытаніна

*– Выпьем с горя, где же кружка? –*
*Няня кружку поднесла.*
*Пушкин выпил со старушкой,*
*Но печаль не отошла.*
*****
*Няня, сетуя на зимы,*
*налила впотьмах вина,*
*стало все неразличимо –*
*где поэт и где она.*

*Марина ТАРАСОВА*

Разабрацца цяжка ў гэтым
(Быў наліты не кампот):
Няня выпіла з паэтам
Ці усё ж наадварот?

– Вып'ем з гора ды адчаю!
Пачало між тым цямнець...
Дзе паэт, а дзе старая,
Ні за што не зразумець!

Гул завеі, брэх сабачы –
Не чуваць верацяна.
Раніцою стала бачна,
Дзе паэт і дзе яна.

Вось такая «заварушка»:
Ледзь паспела сонца ўстаць –
Посуд мыць узяўся Пушкін,
Няня села рыфмаваць.




Малюнак Валерыя МОХАВА, 1987 г.

## Слова, слова...

Пісьменнік знайшоў ідэю, сцэнарыст – задумку, рэжысёр – новае рашэнне, і толькі глядач не знайшоў нічога.





Найбольш упэўнена звычайна трымаецца той, хто ледзьве стаіць на нагах.



Не ўсялякае падзенне – уніз.

Самы вінаваты той, хто кажа праўду не ў час.



Балбатун – гэта чалавек слова.

**А. ФЮРСТЭНБЕРГ.**

**Пераклады з рускай Веранікі МАНДЗІК.**



Малюнак В. ВОХМІНА, 1979 г.

**– Ну, што, у крыжыкі-нулікі?**




**Дружа Вожык!**

Вось такую аб'яву ўбачыў я на адным са сталічных прыпынкаў.

Прачытаўшы яе, здівіўся, бо дагэтуль ніколі не думаў, што балконныя майстры звычайна ходзяць «пад мухай», і таму ў аб'явах стала патрэбай удакладняць, у якім стане да вас завітае кваліфікаваны спецыяліст.

Вядома, я за здаровы лад жыцця! Але калі справа пойдзе так далей, то давядзецца на кожнай аб'яве пазначаць: «цвярозы вадзіцель», «цвярозы тынкоўшчык» і гэтак далей.

А як мяркуеш ты, калючы сябар?

**Андрэй СІДАРЭЙКА,**
*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*







**Калючы сябра!**

У дзяцінстве мяне пужалі Бабкай Ёжкай ды шэранькім ваўком, які кусае за бок, калі ты ляжыш на краі ложка. Але заўсёды знаходзілася нейкае збавенне ад гэтых жахаў – слухацца бацькоў, правільна сябе паводзіць ці яшчэ што-небудзь. Думаў, стану дарослым і зажыву! Ніхто больш не асмеліцца хваляваць мяне. Але атрымалася не так. Зараз я баюся такой рэчы, як крызіс.

Добра, што маркетолагі і тут падаравалі мне надзею. З любога цяжкага становішча можна выйсці пераможцам. А дапамогуць у гэтым вось такія чыпсы. Бо і каштуюць танна і, як запэўнівае вытворца, дужа смачныя. Абавязкова іх пакаштую і раскажу табе, ці сапраўды яны ўратоўваюць ад крызісу. А пакуль пайду пасмажу сапраўдную бульбачку, да яе я больш звыклы.

**Міхась ЗАЯЦ,**
*г. Слонім.*




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




### Раўнівай жонцы

Калі я размаўляю з Таццянай,
Ты раўнавала – зірк ды зірк.
Прашу: не сып мне соль на рану
І марна не трапай язык.

### Жаданне і рэальнасць

Хоча жыць дачка ў сталіцы,
Кожны дзень мяняць спадніцы
І вучыцца – хоць на платным –
Але толькі на «выдатна».
Ды з'ядае з апетытам
Грошы бацькі... рэпетытар.

### Другі дом

Віцю я даўно не бачыў –
Прападае зяць на дачы.
Спіць сурком ён пад радном,
Дача – родны зяцеў дом.

**Канстанцін СТАНКЕВІЧ,**
*г. Баранавічы.*




## Баран на пасадзе

*Байка*

У нарыхтоўчую кантору
Патрэбен новы кіраўнік:
Былы размарнатраціў сродкі
І неяк нечакана знік.
Каго зацвердзіць на пасаду,
Праўленне вырашыла ўраз:
«Баран жа ў нас адукаваны
І мае добры стаж якраз».
Баран без страху і сумненняў
Да абавязкаў прыступіў
І першай справай у канторы
Паўапарата замяніў.
Казлу гародніну даверыў,
На мяса перавёў Ваўка,
Лянівага Ката аформіў
На нарыхтоўку малака.
Асла бухгалтарам прызначыў,
Свінню намесніцаю ўзяў,
Падслепаватую Варону
На склад вартаўніком прыняў.
Касірам запрасіў Лісу-шальмоўку
І такім чынам завяршыў
перастаноўку.
Ці будзем мы, сябры, здзіўляцца
Таму, што гэты калектыў
У першы ж год таленавіта
Ўсе нарыхтоўкі правaліў?
Мараль у байцы на паверхні,
Тут не патрэбна лішніх слоў:
Не вылучайце ў кіраўніцтва
Адукаваных Бараноў!

**Валерый КАВАЛЬЧУК,**
*г. Гомель*







Малюнкі Тамары РАДАВАНАВІЧ і Андрэя СІДАРЭЙКІ.

## Мініяцюры

### Ведае ляснік

З бору знікла дрэваў многа,
Бачны пні, як лоб, дарога...
А куды сасняк той знік,
Пэўна, ведае ляснік.

### Скуль?

Дзед пасеяў рэпку:
Будзе бабе радасць!
Выкапаў – свірэпку.
Скуль такая гадасць?

**Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*




**Мікола ГРАБЯНЁК**

## Лыжачка

*Быль*

Іван Кузьміч асабліва не вылучаўся сярод вясковых мужчын: гэта быў працавіты, спагадлівы чалавек, які нікому ні ў чым не адмаўляў. Праўда, любіў ён часам пасля работы прапусціць чарачку-другую беленькай. А калі выйшаў на пенсію, пачаў выпіваць часцей. Вядома: вольнага часу стала больш, ды і пенсію нядрэнную зарабіў – чаму б не выпіць? І так на вачах аднавяскоўцаў ён паступова, як кажуць у народзе, апусціўся ніжэй за плінтус: стаў хадзіць па вёсцы і прасіць, каб налілі хоць стограмовік чаго-небудзь, а то галава можа раскалоцца на дзве палавіны ад болю. Хто адмовіць Кузьмічу, хто паспачувае, а хто і нальe. Вяскоўцы, бачачы, як ён кожны дзень пасля абеду ледзь не паўзе дадому, перасталі даваць яму спіртное.

– А што, калі папрасіць не сто грамаў, а ўсяго лыжачку, як лякарства ад зубнога болю, – падумаў Кузьміч і пайшоў прасіць хоць лыжачку чаго-небудзь, бо так зуб баліць, што аж жыць не хочацца. Трэба сказаць, што лыжачку чаго-небудзь ад зубнога болю яму сталі даваць. Хто ж адмовіць хвораму чалавеку? Пакуль Кузьміч абыдзе ўсю вёску, глядзіш, па лыжачцы сваю норму і набярэ.

Людзі празвалі яго Лыжачкай, часам наогул перасталі наліваць хоць кропельку віна ці гарэлкі. І парэкамендавалі вырваць з коранем свой балючы зуб, каб больш яго не турбаваў.

Так паступова і адвучылі Кузьміча ад спіртнога, а Лыжачкай называлі доўга, пакуль ён не стаў крыўдзіцца на аднавяскоўцаў.

*Шаркоўшчынскі раён,*
*в. Радзюкі.*




Малюнак Пятра КОЗІЧА.

## Анекдот

Вяртаецца неяк дахаты добра падвыпіўшы муж разам з сабакам.

– Ну, што, зноў напіўся? – незадаволена пытаецца жонка.

– Ды не, я ўсяго дзве бутэлькі піва выпіў. Жучка пацвердзіць.

– Гаў, гаў! – брахнуў сабака.

– А гарэлкі колькі? – не супакойваецца жонка.

– У-у-у... – завыла Жучка.

**Даслала**
**Ганна ЧАРНУШЭВІЧ,**
*Слуцкі р-н,*
*в Замосце.*




*Іранеска*

На мяжы горада і сяла спіць п'яны. Ад ласкавага веснавога сонейка ён задае такога храпака, што зялёная траўка наўкола ажно да зямелькі туліцца. Участковы інспектар Хвасцецкі ў каторы раз абыходзіць небараку, задуменна шкрабе патыліцу і ў роспачы тэлефануе раённаму начальніку міліцыі. Маўляў, як быць і куды везці п'янага.

– А ты панюхай, чым ад яго патыхае, – раіць той. – Калі гарэлкай – вязі ў горад, самагонкай смярдзіць – у сельскі савет. Няхай там і разбіраюцца.

Участковы падыходзіць да п'янага, нюхае яго і зноўку звоніць:

– Таварыш падпалкоўнік, каньяком нясе. Няйнакш як армянскім «Араратам» ці французскім «Напалеонам». Занадта смачна нюхаецца, ажно слінкі пацяклі.

– Тады не чапай: няхай сабе на здароўечка адпачывае, – раіць начальнік. – Сёння такія каньякі піць не кожнаму па кішэні – толькі важнай асобе. Не наш гэта кліент...

«І як я адразу не даўмеўся!» – падумаў Хвасцецкі і, з палёгкай уздыхнуўшы, ямчэй падсунуў пад галаву п'янаму ягоную шапку.

**Віктар ЛОЎГАЧ,**

*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*

**Ганад ЧАРКАЗЯН**

# «Сядайце, калі ласка...»



*Іранеска*

Спусціўшыся ў метро, я прычакаў цягнік і зайшоў у вагон. Дзверы тут жа зачыніліся. Моцна ўхапіўшыся за поручань, я пачаў шукаць вачыма вольнае месца. Усе лаўкі былі заняты моладдзю са слухаўкамі, планшэтамі і смартфонамі з падобнымі на вушы спаніэля чахламі. Адны сядзяць у нейкіх гульнях, другія размаўляюць па тэлефоне, трэцяя слухаюць музыку. Кожны з іх бавіць час у сваёй віртуальнай прасторы.

І раптам за два крокі ад мяне падскоквае разгубленае дзеўчанё, пры гэтым пад ногі ляцяць яе грымлівыя слухаўкі, і нечакана ляпеча:

– Сядайце, калі ласка...

Юнак, што сядзіць побач з ёй, хітра ўсміхаецца.

– Дзякуй, прывык стоячы ездзіць, – адказваю я.

Нечакана ўсе пасажыры вагона нібы па камандзе пачынаюць здымаць свае слухаўкі і іншыя правады-«даспехі». Складваючы іх у сумкі, яны энергічна перашэптваюцца між сабой. Пры гэтым вачыма ледзь не паядаюць няшчасную дзяўчыну. Цяпер яна знаходзіцца пад увагаю ўсяго вагона.

Неўзабаве аб'яўляюць маю станцыю. Расчырванелая дзяўчына выскоквае на перон. Я выходжу ўслед за ёй, не менш ашаломлены здарэннем. Вядома ж, дзіўна: маладая асоба сярод белага дня саступае месца ў транспарце чалавеку ў гадах. Выходзячы з метро, чую, як той самы хлопец з вагона ўзрушана даводзіць свайму сябру:

– Ты бачыў? Знайшлася каза! Прыкідваецца культурнай і выхаванай! Усе сядзяць, а яна яшчэ месца некаму саступае. Трэба ж!..

На працы я распавёў гэтую гісторыю. Але ніхто не паверыў, што такое магло здарыцца. Усхваляваная Вера Восіпаўна адкрыта заявіла:

– Сынок, не расказвай небыліцы. Раней толькі адзін боўдзіла з тысячы мог не саступіць месца пажылому чалавеку, а цяпер толькі адзін з тысячы і саступіць... Але ты не хвалюйся, беражы сябе.

На ўсялякі выпадак яна прыклала далонь да майго лба.

– Можа, тэмпература ў цябе? Надвор'е няўстойлівае зараз. Таму небыліцы і мрояцца.

Дыягназ Веры Восіпаўны не пацвердзіўся. Перад вачыма ўсё яшчэ стаяў малюнак у метро. Было крыху крыўдна, што мне не паверылі. Яшчэ і ў лік старых бурчуноў запісалі.

А на наступны дзень унучка паскардзілася, што класная ў школе не паверыла ёй пра выпадак з дзедам і папрасіла мяне самога расказаць пра ўсё перад вучнямі. Я згадзіўся. Цікава было назіраць за тварамі дзяцей, калі я прыгадваў тое, што мяне ўстрывожыла. Пра сустрэчу гэтую паведаміла радыё, напісалі газеты.

Але самае цікавае чакала мяне пасля. Вядомы тэлежурналіст нейкім чынам адшукаў хлопца, які сядзеў у той незабыўны дзень побач з дзяўчынай, што саступіла мне месца. Як высветлілася, жартаўнік проста... пагладзіў ёй спінку. Вось чаму яна падскочыла са свайго месца і прапанавала мне сесці.

Дзякуючы перадачы юнак зрабіўся зоркай экрана. А я задумаўся. Няўжо я настолькі адстаў ад жыцця?..

**Пераклад Казіміра КАМЕЙШЫ.**




Цяпер, калі мы ўмеем лятаць у паветры, як птушкі, плаваць пад вадой, як рыбы, нам не хапае толькі аднаго – навучыцца жыць на зямлі, як людзі.

*Бернард Шоу, англійскі драматург і дзяржаўны дзеяч*




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




**РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» прапануе!**

**Таццяна ПРЫШЧЭПАВА**

## «Апельсінавы настрой»

Зусім нядаўна ва ўжо вядомай серыі «Вясёлы калейдаскоп» выйшла ў свет першая кніга маладой пісьменніцы Таццяны Прышчэпавай «Апельсінавы настрой», пад вокладкай якой – шаснаццаць казак для дзяцей малодшага школьнага ўзросту.

Разам з пісьменніцай хлопчыкі і дзяўчынкі пазнаёмяцца з прынцэсай кветак, наведаюць Зімовую краіну і лунаючы горад Флайн, павандруюць па кветкавым садзе і зазірнуць у Люстэрка ведаў. І ў кожнага абавязкова з'явіцца апельсінавы настрой. Інакш проста не можа быць, бо казкі Таццяны Прышчэпавай запамінаюцца чытачам сваёй лаканічнасцю, што асабліва спрыяе лёгкасці іх успрымання. Яны напісаны светлымі фарбамі і выхоўваюць у дзяцей пачуццё справядлівасці, дабрыню, спагаду і іншыя лепшыя чалавечыя якасці.

P. S. Гэтае і іншыя выданні «Выдавецкага дома «Звязда» вы можаце набыць у любой з кнігарань ААТ «Белкніга», адрасы якіх шукайце на сайце www.belkniga.by, а таксама ў самім Выдавецкім доме па адрасе: 220034, г. Мінск, вул. Захарава, 19.

Даведкі па тэлефонах: 284-44-04, 288-12-94.

Інфармацыю пра наяўнасць кніг у крамах Мінска можна атрымаць па тэлефонах: 296-70-72, 292-70-72.

Сайт «Выдавецкага дома «Звязда» – www.zviazda.by




**Таццяна ПРЫШЧЭПАВА**

### Гарошынка-вандроўніца

На дзень нараджэння мама падарыла Настачцы сукенку ў гарошынкі. Малая вельмі палюбіла сукеначку. Часта пералічвала гарошынкі на ёй, нібы баялася, што згубяцца. Але тыя спалі салодкім сном і ніколі не пакідалі сукенку.

Праўда, была сярод іх адна вельмі цікаўная гарошынка. Ёй гэты свет здаваўся такім вялікім і нязведаным, што карцела як мага больш пазнаць яго. Часам гарошынка саскоквала з сукенкі і адпраўлялася ў вандроўку па хаце. Павандруе, паразглядвае ўсё вакол – і вяртаецца назад на сваё звыклае месца.

У суботу Настачка разам з мамай вырашылі схадзіць на шпацыр у парк. Дзяўчынка апранула любімую сукеначку. Гарошынка вельмі ўсцешылася: яе чакала новае падарожжа. Перад выхадам, як і звычайна, Настачка пералічыла гарошынкі. Усе былі на месцы.

У парку, калі бегла дарожкаю, Настачка заўважыла на дрэве дамок. Малая спынілася і стала яго разглядаць.

Раптам высока ў небе, ледзь не пад самымі аблокамі, пабачыла белую галубку. Птушка праляцела над дзяўчынкай і юркнула ў дамок.

Цікуючы за галубкай, захацелася палётаць і Гарошынцы. Пакуль астатнія гарошынкі спалі, яна адштурхнулася і саскочыла з сукенкі...

Настачка з мамай вярнуліся дадому. А гарошынка засталася ў парку.

Дома дзяўчынка стала пералічваць гарошынкі і раптам заўважыла, што адной нестае.

Тым часам Гарошынка сядзела ў парку пад дрэвам, на якім была галубчына хатка, і горка плакала.

Пачула плач галубка і спусцілася долу.

– Што здарылася? Чаму ты плачаш? – пацікавілася птушка.

– Ды вось уцякла з сукенкі, а цяпер не ведаю, як вярнуцца дадому, – прызналася Гарошынка і расказала ўсю гісторыю ад пачатку да канца.

– Не плач, я табе дапамагу, – супакоіла Гарошынку галубка. – Сядай мне на спіну.

І яны разам паляцелі на пошукі дома, у якім жыла Настачка.

Увечары Настачка пачула стук у акенца. Расхінула фіранкі і пабачыла белую галубку. Адчыніла акно – і галубка працягнула ёй крыло, на якім сіратліва прытулілася Гарошынка. Малая вельмі ўсцешылася.

– Вялікі дзякуй табе, любая галубка, – сказала Настачка і зняла з крыла Гарошынку. Так Гарошынка зноў вярнулася на сукенку і з таго часу больш ніколі не пакідае яе.

**Лёля БАГДАНОВІЧ**

# Веласіпедыст



*Казка*

Побач з вёскаю, у старым лесе, жыў маленькі зайчык Захарка. Быў ён лупавокі, з вялікімі вушкамі. А бегаў так шпарка, што ніхто не мог яго перагнаць. З-за гэтага і далі яму мянушку – Даўгалыгі.

Забег аднойчы Захарка ў вёску. Прыпыніўся каля крайняй хаты, у якой жыла бабуля Наста. Капустка ў яе расла дужа хрумсткая, а морква – салодкая і сакавітая! Як жа тут устрымацца і не паспытаць гародніны?

Вось і вырашыў Даўгалыгі крышку паласавацца. Хацеў ужо ўлезці ў грады, але ўбачыў нейкага хлопчыка. Той хутка-хутка бегаў па двары. Калі Даўгалыгі прыгледзеўся лепей, то зразумеў, што ён ездзіць. На колах! Зацікавіўся зайка гэтым дзівам, падбег бліжэй.

– Ты хто? – заўважыўшы яго, здзіўлена запытаўся хлопчык.

– Зайчык, – прамовіў Даўгалыгі.

– Ух, ты! Я цябе толькі на малюнках бачыў. Давай знаёміцца! Мяне Сяргейкам завуць...

– Даўгалыгі, – заікаючыся, адказаў Захарка. – А што ты тут робіш?

– Прыехаў да бабулі на лета, катаюся на веласіпедзе.

– Ці можна мне разочак праехаць? – папрасіў зайка.

– Чаму не? Сядай, я цябе навучу, – з радасцю згадзіўся хлопчык.

Сеў Даўгалыгі на веласіпед ды адразу зваліўся. Падняўся з зямлі і расчаравана пралапатаў:

– Не, нязграбны я. Мусіць, не атрымаецца ніколі так, як у цябе.

Сяргейка вырашыў падбадзёрыць новага сябра:

– Чаго ты расхныкаўся? Сядай, я падтрымаю. Давай, цісні на педалі. Круці. Хутчэй! Яшчэ хутчэй! Паехаў!

І на самай справе ў Захаркі пачало атрымлівацца. Праўда, праз некалькі метраў ён зноў зваліўся. Але ўпарта падняўся і ўскочыў на веласіпед.

Гэтак вучыліся яны амаль тыдзень. Колькі радасці было ў абодвух, калі Захарка нарэшце паехаў сам! Пасля гэтага ён папрасіў у Сярожкі веласіпед на некалькі гадзін. Дужа хацелася сябрам пахваліцца, на што здатны.

– Добра, бяры. Толькі вечарам падгані веласіпед і пастаў каля пуні, – згадзіўся хлопчык.

Узрадаваны Даўгалыгі віхрам узляцеў на сядло і паімчаў па сцяжынцы. Едзе і сігналіць. Каб усе лясныя жыхары пачулі! Каб пабачылі, які спрытны і хуткі іх Даўгалыгі!

Выскачыла з дупла вавёрачка. Вылезла лісічка з норкі. Злосны воўк прыбег. Стары дзядзька лось прыклэпаў. Мішка таксама лыпаў здзіўленымі вачыма. Нават на нейкі момант перасталі спяваць птушкі. Мурашы, спыніўшы свае справы, высыпалі на сцежку. Усім цікава. Усе дзівяцца. Заяц на веласіпедзе!

А потым усе лясныя жыхары пачалі прасіць Даўгалыгага, каб пакатаў іх. І ён, зразумела ж, не змог адмовіць. Каго на раму, каго ззаду пасадзіў. Мядзведзь і лось пабаяліся зламаць веласіпед, таму проста глядзелі на гэтае дзіва. Ніхто нават не заўважыў, як і сонейка пачало хавацца...

Раніцай прачнуўся хлопчык і пабег да пуні. Стаіць яго конь жалезны на месцы. А побач падарункі ад лясных жыхароў: грыбы, арэхі, ягады. І Даўгалыгі топчацца каля іх:

– Добрай раніцы! Частуйся, калі ласка, і бабулі занясі. Няхай суп зварыць з грыбочкаў ці насмажыць з бульбай. Чарніц ды малінак паспытае. І хай не крыўдуе на мяне. Ніколі больш у яе агарод не залезу, абяцаю. А зараз паехалі катацца!

І, шчаслівыя, яны асядлалі веласіпед і паімчалі ў бок лесу.

А зайчыка з таго часу не звалі больш Даўгалыгім. Яму далі іншую мянушку – Веласіпедыст.

*г. Барысаў.*




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

# Добрым людзям — мір...



**Па гарызанталі:**

**1.** «Я чуў, як воіну падзяку \\ Шаптала ... ў каласах» *(З верша П. Броўкі)*. **2.** Прафесіянал, які працуе ў небе. **5.** «Гітлер ярасны, як ..., \\ Наступаў на Сталінград, \\ Сталінград пайшоў не ўпрок – \\ Трыста тысяч фрыцаў спёк» *(прыпеўка)*. **8.** «І ўжо фашыстаў – нідзе, нікога, \\ Ідзе, весяліцца ...» *(З верша Я. Сіпакова)*. **10.** «Паліцай на казе \\ Самагонку вязе, \\ Яму ... ўздагон – \\ І душа з яго вон» *(прыпеўка)*. **11.** Набег рухомых ваенных сіл у тыл ворага. **14.** Прадмет старажытнай ручной зброі ў выглядзе круглай альбо прамавугольнай плоскасці. **15.** ... толькі ракаў красіць *(прыказка)*. **18.** «І бразнуўся Карла, сказаўшы: «Капут!» \\ Вось гэтак наш ... пазбыўся пакут» *(З байкі К. Крапівы)*. **19.** Грашовы аброк на Беларусі ў 15–19 стст. **20.** «Я героям Вялікай Айчыннай \\ Веснавыя ... нясу» *(З верша А. Рыбалкі)*. **23.** Слова, якое ўжываецца, каб выказаць згоду, сцвярджэнне. **24.** «Эх, ..., \\ Ды налітыя, \\ Паліцэйскія сабакі \\ Будуць бітыя» *(прыпеўка)*. **25.** «Сягоння ... – у Берліне, \\ Дзе захлынулася вайна» *(З верша Я. Мальца)*.

**Па вертыкалі:**

**1.** Газета-... «Раздавім фашысцкую гадзіну». Сатырычнае выданне часоў Вялікай Айчыннай вайны, якое са жніўня 1945 года пачало выходзіць як часопіс сатыры і гумару «Вожык». **3.** Добрым людзям – мір, а шаленцам – галавой у ... *(прыказка)*. **4.** Тое, што сатлела, спарахнела, згніло. **6.** «... ідзе, ... ідзе, \\ На вуліцы слізка. \\ Уцякайце, паліцаі, – \\ Партызаны блізка» *(прыпеўка)*. **7.** Другая назва цэлюлозы. **9.** Выплата дзяржавай, якая распачала вайну, дзяржавам, што панеслі страты ў гэтай вайне, кампенсацыі. **12.** «Мілыя мае суседзі – \\ Забіякі хвацкія: \\ Кожны дзень у іх грыміць \\ ... сталінградская» *(прыпеўка)*. **13.** «Партызанка мая маці \\ І мой бацька партызан, \\ І сама я партызанка – \\ На баку нашу ...» *(прыпеўка)*. **16.** «Ой, не спіць Адольф-скаціна, \\ Гебельсу маркоціцца. \\ Іх ваенная ... \\ У канаву коціцца» *(прыпеўка)*. **17.** «І тужылі тугою магіл і краін \\ па табе, залатая ... перамогі» *(З верша В. Таўлая)*. **21.** Паселішча на Каўказе. **22.** Рыбалоўная снасць у выглядзе сеткі, нацягнутай на абруч.

**Адказы**

**Па гарызанталі:**
**1.** Поле. **2.** Авіятар. **5.** Гад. **8.** Перамога. **10.** Куля. **11.** Рэйд. **14.** Шчыт. **15.** Гора. **18.** Янка. **19.** Чынш. **20.** Пралескі. **23.** Ага. **24.** Яблычкі. **25.** Тата.

**Па вертыкалі:**
**1.** Плакат. **3.** Вір. **4.** Тло. **6.** Дождж. **7.** Клятчатка. **9.** Рэпарацыі. **12.** Бітва. **13.** Наган. **16.** Машына. **17.** Вясна. **21.** Аул. **22.** Сак.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*






Малюнкі Алега ПАПОВА.

1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25

ЦАНА 1 р. 50 кап.

Вожык

№ 1

1945 Мінск

САТЫРЫЧНА-ГУМАРЫСТЫЧНЫ ЧАСОПІС

Выданне ЦК КП(б) Беларусі

Вярнуўся гаспадар!




Расціслаў БЕНЗЯРУК

З сябрам крочылі па Брацку
Мы, абняўшыся па-брацку.



***

Параходу кара – мель,
Як гурману карамель.



***

Едзе адпачыць Даніла
Аж у Афрыку, да Ніла.



***

Каля Жанкі – каляжанкі;
Каля Іны – каляіны;
Каля Цімошкі –
Камары ці мошкі?



*г. Жабінка.*

# Мода. Лета – 2016




«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 6 (1533), 2016 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

В. а. галоўнага рэдактара
Ганна Аляксандраўна КІСЛУШЧАНКА.

Рэдакцыйная калегія: Анатоль АКУШЭВІЧ, Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Тамара ДАНІЛЮК, Валянціна ДУБРОВА, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Уладзімір МАТУСЕВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: vozhyk@zviazda.ru; a-vojik@yandex.ru
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 07.06.2016. Фармат 60х84 1/8. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,57. Тыраж 1104 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.

Рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца, прымаюцца толькі ў электронным выглядзе.
Перадрукоўваючы матэрыял, трэба абавязкова спасылацца на «Вожык».
Аўтары публікацый нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пазіцыю і думку аўтараў.

© Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, 2016
© РВУ «Выдавецкі дом «Звязда», 2016

1) «Гулька». Для аматарак азартных гульняў.
2) «Паказун». Для псеўдаспартсменаў.
3) «Меламанка». Для асленленых музыкай.
4) «Кавалер». Для адпетых сэрцаедаў.
5) «Нясушка». Для запаслівых гаспадынь.

Малюнкі Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

# Малюе Павел ГАРАДЦОЎ



















Малюнак Алега КАРПОВІЧА.



Несумненна, колкі «Вожык»
Робіць лепшым дзень наш
кожны.
Хто ж для добрых спраў
не гожы —
Пад іголкі трапіць можа.
Сэрцы «Вожык» пакарыў,
Бо нясе ён пазітыў.
Каб заўсёды усміхацца,
Не забуду падпісацца!

**Янусь МАЛЕЦ,**
*г. Мінск.*

facebook.com/vozhykby

vk.com/vozhykby

zviazda.by
(у нізе галоўнай старонкі)




***ЧЫТАЙЦЕ! У наступным нумары:***

Куды трапляюць вершастрэлы?

Навошта авечка пайшла на кангрэс?

Хто правароньвае мячы ў футболе?

# Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844,**

**індывідуальны льготны** (для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ведамасны льготны** (для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**



## ПАДПІСКА НА II ПАЎГОДДЗЕ 2016 ГОДА

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 34000 рублёў,
індэкс 01380, цана 27000 рублёў,
індэкс 748442, цана 97000 рублёў,
індэкс 01381, цана 77000 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**

